Кошт паштовай перасылкі
аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 3000 м. п.

# ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 36.000 м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Непрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 7000 мк., сярод тэксту 6000 м. і на 4 стр. 5000 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 3. Вільня, Пятніца, 31-га жніўня 1923 г. Год I.

## Польшча і славянства.

Некалькі гадоў таму назад ніжэйпадпісанаму давялося гутарыць з адным з найвыдатнейшых прадстаўнікоў чэскае палітычнае мысьлі, які з шчырым жалем казаў аб ролі Польшчы ў славянскім сьвеце:

— „Польшча, якая ходам выпадкаў пастаўлена ў такое палажэньне, што магла-бы стануць напарадзі ўсяго славянства, вядзе палітыку не аб'яднаньня, а наадварот, змагацца славянскіх народаў і аслабленьня іх у барацьбе за сваю незалежнасьць ад дужэйшых суседзяў на Заходзе".

Гэта было, здаецца, ў летку 1919 году. Чатыры апошнія гады польскае палітыкі толькі пацьвярдзілі словы чэскага дзяржаўнага дзеяча.

Даволі глянуць навокал—на славянскіх суседзяў Польшы. З кім з іх Польшча не вяла і не вядзе самае непрымірымае барацьбы?

„Мір" з Саюзам Соцыялістычных Радавых Рэспублік, г. ё. з славянскімі народамі маскоўскім, украінскім і беларускім, ад якіх Польшча адгарадзілася запраўдным непераступным „кітайскім мурам", больш падобны да часовага замірэньня, якое сьмяротныя ворагі гатовы нарушыць кожную часіну..

Чэхі?—Дык-жа з імі йдзе адкрытае дыплёматычнае змаганьне за нейкія дробныя кусочкі спорнае зямлі, напэўна менш вартае, чым вытрачана ўжо грошы на „абарону" польскіх дамаганьняў перад трыбуналам Лігі Народаў і чым траціць Польшча ў сваім гаспадарчым жыцьці на грунце немагчымасьці дайсьці да згоды з чэскім народам.

А вынік гэтага? Тое, што Польшча прымушана ісьці ў „кабалу" да дыктатаркі Заходняе Эўропы, Францыі, і падтрымліваць імкненьне антанцкіх дзяржаваў да паняволеньня славянскіх народаў наагул.

Зусім адкрыта аб ролі Польшчы выказалася надоечы італьянская газэта „Idea Nazionale". Нездаволеная незалежным становішчам Чэхаў і Югаславіі, газэта напамінае паляком, каб ня сьмелі йсьці ў кірунку згоды з гэтымі братнімі народамі.

Чэхія,—кажа газэта,—сталася цэнтрам усеславянскага руху і вядзе заграпічную палітыку ў кірунку адбудовы Расеі. Падобную-ж палітыку вядзе Югаславія, якая лятуцьць аб паваросе Расеі да старага дзяржаўнага значэньня, спадзяючыся, з падмогай Расеі, выкінуць італьянцаў з-над Адрыятыцкага мора.

Стацьця італьянскае газэты гаворыць далей, што Польшча ня можа дапамагаць пашырэньню славянства з шкодай для Італіі. Палітыка чэскага прэм'ера Бэнэша—варожая да Італіі і сустрэнецца ў Італіі з непрымірымымі праціўнікамі. *Сучасны італьянскі ўрад, які падрымлівае Польшчу ў справе ўсходніх граніц, спадзяваўся, што Польшча будзе прадстаўляць процірасейскую завалу ў паходзе Расеі на Дунай і Адрыятыку.*

Як бачым, за цану куска Беларусі і куска Украіны Польшча інтарэсы славянства прынесла ў ахвяру нават так мала з ёй зьвязанай і такой далёкай ад яе Італіі..

А тымчасам пад бокам Польшчы вырастае заправды магутны цэнтр славянства. Чэхія па-брацку дае руку помачы ўсей тэй маскоўскай, беларускай і украінскай моладзі, што дзеля тых ці іншых палітычных прычын была прымушана эміграваць з свае Бацькаўшчыны. І пад той час, як тысячы маладых эмігрантаў—будучых актыўных працаўнікоў у роднай зямлі—дастаюць у чэхаў ня толькі бясплатную вышэйшую адукацыю, але і поўнае ўтрыманьне,—Польшча груба выкідае гэткіх сыноў братніх славянскіх народаў за межы свае дзяржавы, ды нават і сваіх грамадзян беларускае нацыянальнасьці пазбаўляе магчымасьці вучыцца ў вышэйшых школах, стараючыся адначасна „зьліквідаваць" і беларускія гімназіі гэтак сама, як „зьліквідавала" блізу ўсе беларускія школы...

Ня дзіва, што Чэхія здабывае сярод славянскіх народаў усё вялікшы маральны ўплыў, а адначасна з гэтым Польшча з кожным днём яго губляе. Польшча аддзялілася ад славянства, думаючы, што дзяржавы Антанты вечна будуць яе падтрымліваць. Але польскія палітыкі памыляюцца: няхай толькі Францыя згаворыцца з Расеяй аб звароце старых даваенных даўгоў, няхай францускія капіталісты адтрымаюць карысныя для іх канцэсіі на тэрыторыі С.С.Р.Р.,—і „служба" Польшчы ў магутных „паноў" скончыцца.. А тады трэба будзе аглядзецца бліжэй—на суседзяў-славян і шукаць у іх апоры і дапамогі.

Але тыя пакаленьні маскоўскае, беларускае, украінскае інтэлігэнцыі, што цяпер узгадоўваюцца на землях канкурэнткі Польшчы Чэхіі, хіба будуць ужо тады так ці сяк прымаць учасьце ў палітычным жыцьці сваіх краёў. І горкія ўспаміны аб сучаснай ролі Польшчы ў жыцьці славянства адкінуць прагнутую тады да іх польскую руку.

Што сучаснае палажэньне Польшы, якое дае ёй магчымасьць сяньня вясьці проціславянскую палітыку, ёсьць дачаснае,—гэта разумеюць нават эндэцкія палітыкі. „Выключна выгадная кон'юктура, ў якой мы сягоньня знаходзімся з прычыны слабасьці Нямеччыны і Расеі, зьменіцца цераз колькінаццаць гадоў", піша ў газэце „Słowo Polskie" праф. Ст. Грабскі.

Разумеюць,—але зрабіць належныя вывады ня здольны.

**Ст. Мірскі.**

## Адкрытае пісьмо да Пана Міністра Унутраных Спраў.

*Пане Міністар!*

Я адтрымаў з крыніцы, зусім заслугоўваючай на веру, весткі аб тым, што робіцца ў палітычным аддзеле Беластоцкага вастрогу:

„Палажэньне палітычных арыштаваных ў Беластоцкім вастрозе цяпер вельмі цяжкае. Галадоўкі ідуць за галадоўкамі. Сталі галадаць і палітычныя. Галадалі 6 дзён. Тады адміністрацыя стала стасаваць штучнае харчаваньне, каб зламаць галадоўку. Адзін з арыштаваных памёр з голаду. Пасьля гэтага галадоўка стала агульнай. Галадоўка выклікана цяжкімі ўцісненьнямі і немагчыма грубымі адносінамі. Некаторыя часовыя паляпшэньні выкліканы былі папярэднімі галадоўкамі.

Загаладалі і кабеты. Звольнены ад галадоўкі толькі Вера Маслоўская, Сяргей Баран і Зося Старасельская, як зусім хворыя. Усіх галадаўшых на трэці дзень сталі штучна „аджыўляць", пры гэтым абходзіліся зусім пазьверску. Палітычных кабет пачалі карміць, літэральная зьдзекуючыся, разам з угалоўнымі. У сьценах беластацкага вастрогу толькі і чуваць разьдзіраючыя душу стогны палітычных па камэрах і карцэрах... Гэта — „кармяць"... Калі ня прымеце мераў, дык застануцца жывымі толькі тыя трое хворых, што не галадаюць..

Кормяць вось як: тры разы на дзень рэдкім жытнім наварам. Пачынаюць карміць на другі, на трэці дзень галадоўкі. Пры карменьні выкручваюць назад рукі, разьзяваючы палкай рот, каб уставіць кішку... Немагчыма перанесьці крыкаў зьдзекуемых... Кажуць, з кабетамі абходзяцца пры гэтым „далікатней", хоць у большасьці—абкрываўленыя раты. А што робіцца ў мужчынскім аддзеле,—слоў ня хваціць апісаць! Тут кармленьне пераходзіць у заправдную оргію зьдзекаў, бо арыштаваныя робяць спраціў процій гвалтаў. Тут літэральна льецца ручём кроў. Можна сабе ўявіць, як карыстаецца гэтым пакровам гуманнасьці гэтая „армія збаўленьня" — вастрожная адміністрацыя, якой у поўную і бяскантрольную ўладу аддана столькі жыцьцяў...

Зварочваемся да паслоў Беларускага Клюбу з мальбою аб абароне... Прышлеце камісію дактароў, прыежджайце самі. Паглядзеце на „збаўленых ад голаду" ахвяр гуманнасьці вастрожнай адміністрацыі... Аўгеня Матэйчук і Зараховіч пасьля паноўных „кармленьняў" зусім аслабелі... раты ў іх разарваны... твары напухлі... Ждом камісію дактароў з нашымі пасламі"...

Пісьмо напісана ў пачатку жніўня.

На жаль я толькі цяпер адтрымаў залежаўшаеся пісьмо.

Даводзячы ўсе гэтыя зусім точныя весткі да Вашага ведама, Пане Міністар, пакуль што адкрытым пісьмом у газэце, выяўляю сваю глыбокую пэўнасьць, што Вы, Пане Міністар, зробіце зараз-жа загад аб спыненьні чынімых ў Беластацкім вастрозе гвалтаў вастрожнай адміністрацыі, калі яны яшчэ ня спыніліся і аб разьследаваньні для выяўленьня і пакараньня вінаватых у нячуваных зьдзеках над безбароннымі людзьмі, якіх дапусьціліся ў Беластоку прадстаўнікі вастрожнай ўлады.

*Пасол Сойму* **Браніслаў Тарашкевіч.**

Вільня, 28/VIII—23 г.

### Ад Рэдакцыі.

У зьвязку з чуткамі аб зьдзеку над палітычнымі арыштаванымі ў Беластоцкім вастрозе, у Беласток выехаў пасол Валошын, які устанавіў, што ўсе даныя аб зьдзеках, зьмешчаныя ў адкрытым пісьме п. Тарашкевіча, зусім згодны з праўдай.

Да гэтага трэба дадаць вось якія дэталі:

З пачаткам гэтага месяца палітычныя вязьні Беластоцкага вастрогу ў ліку 53 асобаў распачалі галадоўку, дамагаючыся аддзяленьня палітычных ад угалоўных, свабодных пабачаньняў, якія дасюль адбываліся праз краткі, даўжэйшага асьвятленьня камэраў. Праз колькі дзён галадоўкі адміністрацыя пачала штучна аджыўляць вязьняў. Па аканчаньні галадоўкі адзін з арыштаваных—Бандарук (беларус, які засуджаны ў часе вядомага Беластоцкага працэсу) памёр. У афіцыяльным пратаколе адміністрацыя падае, што прычынай яго сьмерці было запаленьне лёгкіх. Таварышы па вастрогу, якія што дня мелі з памёршым зносіны, катэгарычна пярэчаць таму, што памёршы быў калі-небудзь хворы. Палітычныя вязьні ў Беластоку жадаюць прысылкі камісіі, якая-б устанавіла прычыну сьмерці Бандарука, асабліва дзеля таго, што заўважана, што вока трупа было выкалана, гарляк пашкоджаны. Да гэтага часу засталіся хворымі Максім Іванюк, Барташук і Гораш (ўсе—беларусы, засуджаныя ў Беластоцкім працэсе). Гораш мае раны ў вобласьці рота ад штучнага аджыўленьня. Іванюк і Гораш скардзіліся, што іх моцна пабілі. Наагул, усе палітычныя скардзяцца на нялюдзкія пабоі і зьдзекі. Мужчыны галадалі 5 дзён, а кабеты 2 дні. Пасьля галадоўкі памёрлі яшчэ два палітычных Анцыпаровіч і Панцель.

Мы з свайго боку жадаем задаваленьня жаданьняў палітычных вязьняў і дамагаемся ад уладаў, каб неадкладна была выдэлегавана камісія, з учасьцем беларускіх паслоў, якая-б разсьледавала гэтую справу, бо можна думаць, што прычынай сьмерці палітычных вязьняў зьяўляецца зьдзек над імі ў часе штучнага аджыўляньня.

Работніцкія масы Беластоку прынялі масавае ўчасьце ў хаўтурах. Дамавіну нясьлі на плячах. Тысячы работнікаў кінулі працу, каб аднесьці змагальніка на могілкі. Над дамавінай веяў чырвона-чорны сьцяг.

# Пад апеку міжнароднага капіталу.

Апошняя соймавая сэсыя прайшла пад знакам „направы скарбу“: сьпешным парадкам ухвалена было шмат законаў аб новых падатках, аб павялічэньні старых і г. д., пры гэтым урадовая большасьць голасна крычала, што багатыя клясы нясуць вялікія ахвяры, каб паправіць польскія фінансы і што толькі іх урад здолае вывясьці Польшчу з зачараванага круга дарагоўлі і фінансавага крызысу. У свой час мы адзначылі гэтую аблуду польскіх абшарнікаў і капіталістаў, паказваючы, што цяжар падаткаў пераважна нясе працоўная маса, як у форме пасрэдных і беспасрэдных падаткаў, так і ў стратах ад спадку вартасьці маркі, які выклікаецца ўсё ўзрастаючай інфляцыяй, г. ё. друкаваньнем папяровых грошай.

Таксама мы паказвалі і на тое, што Польшча перажывае абавязковы ў сучасных варунках працэс аддачы гаспадарчага жыцьця краю ў рукі міжнароднага капіталу і апекі яго над клясавымі інтарэсамі польскай буржуазіі. Буржуазія таксама дае сабе ў гэтым поўны адчот і сьвядома імкнецца да гэтага, ведаючы што без дапамогі міжнароднага капіталу яна ня здолае справіцца з тымі фінансавымі труднасьцямі, якія цяпер перажывае Польшча. Пераход улады ў эндэцкія рукі толькі ўскарыў гэты працэс.

Эндэцкая „направа“ скарбу выявілася ў надрукаваньні ў працягу трох месяцаў новых 3 з палавінаю трыльёнаў папяровых марак, абніжэньнем у 5 разоў курсу гэтай маркі, шалёным узростам дарагоўлі, вялізарным дэфіцытам дзяржаўнага бюджэту і г. д. І польская капіталістычная прэса адкрыта загаварыла аб папраўленьні дзяржаўных фінансаў шляхам аддачы загранічным капіталістам у заставу дзяржаўнай маемасьці. Адначасна пад шумок распачаліся перагаворы відных хьена-пястоўскіх палітыкаў з рознымі групамі заграгічных капіталістаў. Сэнатар Гамэрлінг едзе з гэтай мэтай у Амэрыку, Корфанты вядзе перагаворы з дырэктарам „Union Banku“ Бозэлем і вядомым каралём нямецкіх прамыслоўцаў і фінансыстаў Штынэсам. Зьяўляюцца чуткі аб пазычцы ў Англіі і аб назначэньні ангельскага фінансыста ў характары экспэрта па арганізацыі польскіх фінансаў. Урэшце паяўляюцца весткі аб тым, што міністар прамысловасьці і гандлю п. Кухарскі мае падпісаць у Парыжы з амэрыканскім банкірам Морганам умову ў справе закладзін польскага эмісыйнага банку пры дапамозе амэрыканскіх капіталістаў. Аснаўны капітал гэтага банку праектуецца ў 120 мільёнаў даляраў, з якіх польскі ўрад мае ўнесьці 20 мільёнаў, а рэшту дасьць банк Моргана. А за гэта Польшча амэрыканскім капіталістам аддасьць у заставу даходы дзяржавы з тамажэнных пошлінаў і тытунёвага монаполю.

З другога боку польская прамыславасьць паступнова пераходзіць таксама ў рукі міжнароднага капіталу. Раней успамнены „Union Bank“ ужо выкупіў $^1/_4$ польскай нафтавай прамыславасьці, ідзе працэс выкупу акцый лодзінскіх прадзільных фабрыкаў, вялікая частка прадпрыемстваў на Горным Шлёнску знаходзіцца ў французскіх руках, як компэнсацыя за палітычнае падтрыманьне Францыі, Карфанты вядзе перагаворы з Штынэсам аб пэўных прамыслова-фінансавых комбінацыях, вынікам якіх пад кантролем нямецкага капіталу апыніцца ўся жалезная і вугальная прамысловасьць Горнага Шлёнска... Няма што й казаць, што гэтае самае чакае ў першую чаргу і нашыя лясныя багацьці Заходняй Беларусі.

Цікава, што гэты працэс аддачы пад апеку міжнароднага капіталу фінансавага і гуспадарчага жыцьця Польшчы асабліва хуткім тэмпам ідзе тады, калі ўлада знаходзіцца ў руках шовіністычна-нацыяналістычнай польскай большасьці. Трэба ведаць, што гэты шовінізм і прапаганда ненавісьці да людзей іншай нацыянальнасьці патрэбны польскім абшарнікам і капіталістам, каб затуманіць голавы ў сябе дома работнікам і сялянам, нацкаваць іх на працоўных іншых нацыянальнасьцяў, каб тым самым скрыць ад іх запраўнага іхнага клясавага ворага і тым лягчэй панаваць над імі. І той-жа польскі буржуазны нацыяналізм зусім ахвотна ідзе пад апеку міжнароднага капіталу, каб умацаваць сваю ўладу, каб супольна ў міжнародным маштабе вясьці змаганьне з працоўным народам.

У чыіх руках знаходзіцца фінансавае і гаспадарчае жыцьцё края, той кіруе і палітычным жыцьцём. „Robotnik“ паведамляе, што Морган, як варунак удзяленьня пазычкі, ставіць вымаганьне аб *поўнай непадзельнасьці зямельнай уласнасьці ў Польшчы, г. зн. аб скасаваньні зямельнай рэформы*. Ці-ж можа тады быць гутарка, аб самастойнай палітыцы нацыянальна-незалежнай Польшчы, якая ў гэтых варунках будзе зьяўляцца сьляпой прыладай выпаўненьня волі аб'еднанай суполкі банкіраў і прамыслоўцаў усіх краёў.

Я. Л.

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

Урад пастанавіў асыгнаваць 120 мільярдаў мар. для закупкі збожа. Гэтая асыгноўка дае магчымасьць вялікім абшарнікам пазбыцца па высокай цане тых запасаў старога збожа яшчэ перад рэалізацыяй новага ўражаю і зьяўляецца у сучасных варунках новай дапамогай для абшарніцтва.

---

Ходзяць чуткі аб зьменах на пасадах міністраў фінансаў, прамысловасьці і гандлю і дарогаў. Пасол Брыль (пяст) мае атрымаць портфэль міністра публічных работаў.

У міністэрстве заграгічных справаў пры учасьці п. Сэйды, Скірмунта, Замойскага і інш. адбылася нарада, на якой абгаварывалася становішча польскай дэлегацыі на паседжаньні Рады Лігі Нацыяў і на паседжаньні пленуму Лігі.

---

Міністэрства ўнутраных спраў закончыла працу над праектамі уставаў ваяводзкіх, павятовых і гмінных самаўрадаў аднольковых для ўсей Рэчыпаспалітай, гэтыя праекты ў хуткім часе будуць разгледжаны Радай міністраў і перад асеньняй сэсіяй унесены на разляд Сойму.

---

У Катавіцах і іншых мясцовасьцях Горнага Шлёнску адбыліся скліканыя праз профэсыянальныя саюзы мітынгі ў справе дарагоўлі. Прыняты рэзалюцыі, заклікаючыя ўрад да запраўднай барацьбы з дарагоўляй.

---

Ад 1-га верасьня павялічываецца на 100% пачтова-тэлеграфная тарыфа. Пісьмо да 20 грамаў будзе каштаваць 1000 мк., пісулька — 500 мк. звычайныя тэлеграмы за слова 1000 мк., наймэншая тэлеграма—10.000 мк.

---

У Польшчы ў сучасны мамент находзіцца ў абегу 5.600 мільярдаў марак польскіх. За тры месяцы ўрадаваньня, ўрад Хьена-Пяста выпусьціў 3.400 мільярдаў новых папяровых грошай.

## С. С. Р. Р.

„Известия“ у нумары ад 14-га жніўня ў перадавіцы адзначаюць, што надходзіць „новая хваля сусьветных патрасеньняў“ і бачыць іх як у выпадках у Нямеччыне, таксама і гарачкавых узбраеньнях вялікіх дзяржаў і нацыянальным руху ў Італіі, на Балканах і Вэнгрыі.

---

Сьледзтва ў справе забойства Вароўскага выявіла дужа цікавыя дэталі. Аказваецца, што Вароўскі забіты заместа Чычэрына, Красіна і Бэрэнса. Конрадзі адтрымаў патрэбныя грошы ад сэкрэтара бушай місыі Чырвонага Крыжу і паехаў да Бэрліну, каб забіць там памянёныя асобы, але не застаўшы ў Бэрліне гэтых асобаў, Конрадзі вярнууся ў Швайцарыю і забіў Вароўскага.

## НЯМЕЧЧЫНА.

Прускі міністар унутраных спраў на падставе закону аб абароне рэспублікі зачыніў цэнтральны аддзел фабрычных радаў разам з выканаўчым аддзелам і аддзеламі пасобных прамысловых групаў. Адбыліся вобыскі ў розных камуністычных арганізацыях, знойдзеныя матэр'ялы даводзяць, што 8 і 9 верасьня ў Бэрліне меўся адбыцца конгрэс фабрычных радаў, але пасьля было пастаноўлена склікаць конгрэс да Дрэздэна альбо Лейпцыга.

---

Корэспондэнт ангельскай часопісі „Daili Graphic“ паведамляе аб сваей размове з канцлерам Штрэзэманам. Штрэзэман выказаў жаданьне, каб паміж Англіяй, Францыяй і Нямеччынай у хуткім часе дайшло да паразуменьня. Канцлер зьяўляецца староньнікам беспасрэдных перагавораў Нямеччыны з Францыяй і Англіяй.

---

Окупацыйныя ўлады зачынілі ўсе камуністычныя выдавецтвы ў Рурскім басэйне.

## БАЎГАРЫЯ.

Выбары да Народнага Сабраньня адбудуцца ў палове лістапада.

## ЮГАСЛАВІЯ.

Урад Югаславіі падае гэткія весткі ў справе вядомага харвацкага незалежніка пасла Радзіча

Радзіч уцёк з Югаславіі праз вэнгэрскую граніцу, ў гэтым яму дапамагалі другія паслы ягонай партыі. Праз Вэнгрыю і Вену Радзіч паехаў у Лёндын. Падарожа яго мае на мэце зьдзейсьненьне ідэі нацыянальнай, палітычнай, культурнай і этнографічнай самастойнасьці харвацкага народу. У Вене Радзіч меў спатканьне з харвацкімі замежнымі рэволюцыянэрамі. У Лёндыне Радзіч пабываў у выдатных ангельскіх журналістаў і палітычных дзеячоў, каб зацікавіць іх харвацкаю справай. Агітацыя Радзіча знаходзіць спачуцьцё ў Загрэбе 19 га жніўня харвацкая нацыянальная рэпрэзэнтацыя ўхваліла даць свайму правадару Радзічу паўнамоцтвы, каб распачаць дыплёматычную акцыю з мэтай дабіцца прызнаньня і зьдзейсьненьня права харвацкага народу самому вырашыць свой лёс. Урад Югаславіі будзе стасаваць самыя жорсткія рэпрэсыі да староньнікаў Радзіча.

## ІРЛЯНДЫЯ.

27 жніўня распачаліся ў Ірляндыі выбары ў парлямэнт.

## ЛІТВА.

Літоўскі ўрад пастанавіў не падпісваць конвэнцыі ў справе Клайпэды, паскольку ў ёй ня будуць зроблены зьмены, згодныя з жаданьнямі літоўскага ўраду. У гэтым сэнсе прынята рэзалюцыя камісіяй заграгічных спраў ковенскага сойму. Літоўскі ўрад выпрацоўвае папраўкі, якія, па яго думцы, павінны быць зроблены ў конвэнцыі, апрацаванай Радай амбасадораў і гэтыя папраўкі будуць далучаны да адказу ковенскага ўраду, які ў бліжэйшыя дні будзе высланы да Парыжу.

## ТУРЦЫЯ.

Згодна з пастановамі Лозанскага трактату распачалася эвакуацыя Константынопаля ангельскімі войскамі.

## ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ.

Прэзыдэнт Кулідж назначыў губэрнатара Пэнсыльваніі судзьдзёю ў спрэчцы паміж уласьнікамі капальняў і работнікамі. Фэдэрацыя работнікаў у капальнях пастанавіла распачаць забастоўку 1 верасьня. Уласьнікі, каб зламаць забастоўку маюць на пагатове 4.000 неарганізованых работнікаў. Прэзыдэнт Кулідж у пісьме да губэрнатара Пэнсыльваніі дамагаецца уступак з абодвых бакоў.

## Забойства Даскалава.

У Празе-чэскай забіты выстраламі з рэвальвэру бышы баўгарскі пасол пры чэскім урадзе Даскалаў. Арыштаваны забойца, нейкі Ніколаев, паказаў, што забойства ёсьць помстаю за сьмерць македонцаў, разстрэляных у той час, калі Даскалаў быў міністрам унутраных спраў у кабінэце Стамболійскага.

## Морган-Штынэс-Хьена.

Р. А. Т. паведамляе, што камуністычная газэта „Rote Fahne“ зьмесьціла артыкул, які выяўляе, што змаганьне ў Рурскім басэйне ёсьць толькі часткай тае вялікае барацьбы, у якой бяруць учасьце ня толькі Францыя і Нямеччына, але і Амэрыка і Англія. На абшарах Руры змагаецца трест Рокфэлера з трестам Моргана, бо змаганьне амэрыканскіх трэстаў ужо перакінулася на эўропэйскія абшары. Лёгка паказаць сувязь галоўных конкурэнтаў ў эканамічным жыцьці ў Рурскім басэйне з абедзьвюма амэрыканскімі групамі. Морган падтрымоўвае контакт з Шнэйдэрам-Крэузот, а ў Нямеччыне з Штынэсам. Рокфэлер-жа падтрымоўвае зносіны з „Standart Oil Company“ і з „Bangue de Paris et de Pays bas“. Гэты апошні банк мае сувязь з французкаго групаю вялікіх прамыслоўцау ў Лётарынгіі.

Газэта вылічае падарожы Штынэса ў Данію, Італію і г. д., дзе ўсюды Штынэс адбыў нарады з прадстаўнікамі трэсту Моргана і паказвае, што Шнэйдэр-Крэўзот здабыў шмат стальных фабрык на Горным Шлёнзку, нафтавыя абшары ў Румыніі і пашырыў свае ўплывы ўва ўсіх балканскіх дзяржавах пры помачы нямецкіх і італьянскіх банкаў. У апошнія часы Шнэйдэр-Крэўзот разам з Ротшыльдам стараецца заўладаць вэнгерскімі жал. дарогамі. Суполка Шнэйдэр-Штынэс стараецца пашырыць свае ўплывы ўва Ўсходняй Эўропе. Пераносячы сваю дзейнасьць з Аўстрыі да Вэнгрыі і Румыніі стараецца заўладаць і Польшчай. „Rote Fahne“ цьвердзіць, што дзякуючы падтрыманьню групы Штынэса-Шнэйдэра Морган бярэ верх над трэстам Рокфэлера.

Як вядома, Морган вядзе цяпер перагаворы з польскімі палітыкамі аб удзяленьні Польшчы крэдытаў за адпаведныя концэсыі.

# З газэт.

### Школы і дзяржава.

У газэце „Słowo Polskie“ п. Ст. Грабскі зьвярнуў увагу на вельмі характэрнае зьявішча:

> Ад часу, як Польшча вярнула сваю незалежнасьць, усе клапоты аб узгадаваньні будучага пакаленьня грамадзянства ўзлажыла на дзяржаву. Кожная плётка з соймавага жыцьця, ня кажучы ўжо аб курсе доляра, больш цікавіць шырокія кругі нават інтэлігенцыі, чым школьныя справы.
>
> А тымчасам нямашака такое галіны публічнага жыцьця, у якой больш неабходна сталае, жывое, сьвядомае і разумнае супрацоўніцтва ўсяго грамадзянства з урадам, чым у справах узгадаваньня моладзі.
>
> На пачатку новага школьнага году мы павінны прыпомніць сабе гэтую простую, амаль што не банальную, а—ткі ў апошнія часы прызабытую праўду.

Што датычыцца школьнае справы беларускае „меншасьці“, дык тут усё йдзе наадварот. Увесь цяжар працы ляжыць выключна на беларускім грамадзянстве. Польская-ж дзяржава ня толькі не „супрацоўнічае“ з беларускім грамадзянствам, а робіць ўсё, што можна, каб беларускіх школ зусім у межах „польскага дасяганьня“ ня было... Ходзяць чуткі аб шырокім, арганізаваным паходзе школьнае ўлады проці беларускіх сярэдніх школ, і віленская беларуская гімназія на сабе адчувае першыя праявы гэтага паходу...

Цікава, што віленскія эндэкі ўсё-ж такі нездаволены палітыкай віленскае кураторыі: яна, бачыце, не даволі йшчэ груба! „Dziennik Wileński“ начаў нават цэлую кампанію проці кіраўнікоў кураторыі. Эндэкі нападаюць асабліва на п. Возьняковскага, б. школьнага інспэктара ў Горадзенскім павеце. Гэты пан памятны беларусам тым, што *закрыў у Горадзеншчыне ўсе беларускія школы* і пры помачы жандароў „вылавіў“ і паразганяў тыя з іх, што пасьля афіцыяльнага закрыцьця іх далей працавалі патайна. Дык можна сказаць, што п. Возьняковскі выявіў сябе ня меншым „патрыотам“, чым сам Іоганн Гэрманавіч Обст.

За што-ж злосьць да яго і да ўсяе кампаніі „ліквідатараў“ беларускае школы?

Трэба думаць, што ў кампаніі Обста зьявіліся ахвотнікі заняць „цёплыя месцы“ ў кураторыі і „папрацаваць“ дзеля школьнае справы. А вось-жа п. Грабскі жаліцца, што грамадзянства мала цікавіцца школамі!

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### ХРОНІКА.

**Полёнізацыя.** „Dziennik Wileński“ паведамляе, што Інспэкторыят школьны на гор. Вільню 37 вучыцялёў віленскіх школ зусім звольніў. Есьць чуткі, быццам 60 вучыцялёў прыехала з Галіцыі ў Вільню для навучаньня дзяцей у пачаткавых школах. Гэта ў той час, калі мясцовыя пэдагогічныя сілы марнуюцца без пасад, дзеля таго, што ім па незразумелай для іх прычыне ня хочуць даць польскага грамадзянства.

**Занятькі ў Віленскай Белар. Гімназіі** пачнуцца 1-га верасьня ў суботу.

**Пашпарты Лігі Нацыяў.** У ўрадовых кругах паднята пытаньне аб выданьні ў бліжэйшым часе пашпартаў Лігі Нацыяў для „obcokrajówców“. Пашпарты будуць выдавацца ў усіх дзяржавах, якія ўваходзяць у Лігу Нацыяў.

Асобы, якім будуць выдадзены гэткія пашпарты будуць мець права свабодна пераежджаць у дзяржаве, дзе пашпарты будуць выдадзены.

**Студэнты Віленск. унівэрсытэта** браты С., назначаныя магістратам рэвізаваць гарэлачныя заводы так напіліся, што, зайшоўшы ў сынагогу, сталі на калені і пачалі жагнацца. Прысутныя зьвярнулі ім увагу, што яны знаходзяцца ў сынагозе і прасілі выйсці. Тады адзін з братоў С. кінуў у сабраўшыхся людзей бутэлькай з лікёрам. Прышоўшая паліцыя вывела авантурнікаў з сынагогі.

**Як атрымаць польскае „obywatelstwo“.** Хто лічыцца паходжаньнем з сучаснай Польшчы і хоча атрымаць „obywatelstwo“ павінен прадставіць такія дакумэнты: 1) Выпіску з саслоўных кніг; 2) мэтрыку, альбо іншы дакумэнт сцьверджаючы дату і месца раджэньня. Асобы польскай нацыянальнасьці, але якія радзіліся на тэрыторыі іншай дзяржавы павінны злажыць дэкларацыю аб адрачэньні ад папярэдняга грамадзянства, пры гэтым польскую нацыянальнасьць павінна сьцьвярдзіць дзьве асобы, заслужываючыя давера. Асобы няпольскай нацыянальнасьці і радзіўшыяся ня ў Польшчы могуць дамагацца „абыватэльства“ калі давядуць, што: 1) вялі парадачнае жыцьцё; 2) Жылі на тэрыторыі сучаснай Польшчы ня менш 10 гад.; 3) Маюць сродства для пражыцьця; 4) Валодаюць польскай мовай. Заявы і дэкларацыі павінны быць аплачаны па 60000 штэмплёвых марак; за кожны далучаны дакумэнт трэба даплачываць 6000 мар.

**Павышэньне паштовай аплаты.** З 1-га верасьня г. г. павышаецца паштовая аплата. Пісьмо ў Польшчы аплачываецца 1.000 м.; заграніцу — 2000 м. (у Чэхаславацыю, Румынію і Вэнгрыю — 16.000 м.); заказное—2000 м.; экспрэс—6000 м.; паштовыя пісулькі—500 м.; газэты і іншыя друкі, ўважаючы ад вагі, ад 100—2000 м. Перэсылка грошы: 1000 м. аплачываецца 50 м.; ад 1000—5000 м.—100 м.; да 10.000 м.—200 м.; да 20.000 м.—400 м. і за кожныя наступныя 50 тысяч—50 м.

**Сход Сяброў Віл. Бел. Грам. Сабраньня.** З прычыны таго, што за атсутнасьцю кворуму Сход Сяброў Беларускага Грамадзянскага Сабраньня 28 жніўня г. г. не адбыўся Рада Старшынь гэтага Сабраньня склікае паўторна сход сяброў на 4 верэсьня г. г. у аўторак на 6 гадзіну ўвечары (Віленская 12). Сход будзе лічыцца правамоцным пры ўсякім ліку сабраўшыхся Сяброў. Парадак дня: 1) Справаздача Рады Старшынь, 2) Перавыбары Рады Старшынь і 3) бягучыя справы.

**Пяцітыднёвая забастоўка.** На фабрыцы трыкатажных вырабаў „Блёха“ закончылася забастоўка рабочых, якая цягнулася пяць тыдняў.

## Весткі з вёскі.

**Вайстомская воласьць**, Свенц. п.

Чытаючы нашу газэту не спатыкаў я яшчэ добрага адзыва аб валасной адміністрацыі. Тое ці іншае ліха яны творуць сярод мясцовай людпасьці. Тлумачыць гэта трэба тым, што па валасьцях сядзяць не мясцовыя людзі, не выбраньнікі народу, а назначаныя шляхцюкі праз староства а то панасыланыя з Польшчы. Служаць гэтыя ягамосьці за грошы і дзеля грошы, а справе народнай толькі шкодзяць.

У нашай Вайстомскай воласьці адміністрацыя так сама добрага слова не варта. Давялося мне неяк быць у сваей воласьці. Не ахвотна я туды хаджу—чуешся там, як чужаземец; пасвоему пабеларуску гутарыць нямя як, а ўсё папольску, а я, прызнацца, да гэтай мовы толькі ў апошнія часы стаў прывыкаць, бо перш ды і цяпер усе нашы вёскі гутараць толькі пабеларуску. Вось зайшоўшы ў воласьць па сваей справе, я ўвідзеў, што пісар, як кажуць, бяз задніх ног, а адзін радны таксама зусім пьяны стаіць над ім на каленях і пяе адходную. Справы сваей я ніяк ня мог зрабіць, бо і войт быў ня трэзвы. Прабадзяўшыся цэлы дзень дарма, я змушаны быў пайсьці дамоў ні з чым.

**Р. Р.**

**М. Новая Мыш**, Баранавіч. пав.

Такую дзіўную назву мае досыць саліднае мястэчка, якое знаходзіцца ў вярстах пяцёх каля Бзранавіч. Чаму яно называецца „Мыш“, —трудна сказаць, але настаяшчых мышаў у ім больш як трэба; ўсялякіх: вялікіх, сярэдніх, малых, чорных, шэрых. Яшчэ да вайны „Мыш“ славілася канакрадамі. Цяпер, здаецца, яны перанясьліся ў другі „цэнтр“. Баранавічы зусім забілі Мыш сваімі кірмашамі і наогул усім, і Мыш стаіць цяпер, як асірацелая, як глухая вёска: разваліліся корчмы, замкнуліся крамы, няма ніякага руху, а кірмашовы пляц, які калісьці часта запоўняўся людзьмі, цяпер парос травою і па ім пасуцца свіньні, гусі, куры. У Мышы ёсьць касьцёл і царква. Есьць воласьць і паліцэйскі пастарунак. Паліцэйскія і валасныя панічы, можна сказаць, адзіная краса Мышы. Іх можна бачыць часта: то яны ідуць пехам, то разьежджаюць на валасным веласапедзе па Мышскаму пляцу.

Валасны веласапед!

Вы памятуеце, чытачу, як ўсею воласьцяй загадаваў старшыня, а фактычна пісар, а паліцэйскія абавязкі спаўняў адзін вураднік, якія ездзілі на конях—пісар на стайковых, а вураднік на сваім. Куды там — цяпер у воласьце—цэлы дэпартамент, а ў пастэрунку—цэлая армія. І для ўсіх—адзін веласапед, каб... ездзіць па Мышскаму пляцу. А каму бяда, што сялянскія грошы ідуць на ўцехі панічоў. Каму бяда, што яшчэ ў многіх няма хат пасьля вайны і няма надта чаго есьці.

**Д. П.**

**Вёска Лопейкі,** Празор. вол., Дзісеншчына.

У нашу вёска 12 ліпня г. г. неждананегадана з'явіўся землямер дзеля правядзеньня граніцы паміж вёскамі Ляпейкі, Гаравыя, Бандары і сэрвітутам маёнтку Празарокі, занятую цяпер праз асаднікаў. Сазваўшы сялян памянёных вёсак, ён патрабаваў, каб яны паказалі капцы. Сяляне няведаючы дзеля чаго гэта патрэбна, паказалі сваю граніцу. Пан землямер прыказаў быць ім на мейсцы на другі і трэці дзень, але сам ня прыехаў. З'явіўся толькі ў нядзелю 15/VII і прывёз з сабой чамусь двух паліцыянтаў і шляхціца Антона Шабеко, бежанца з Вітабскай губ., які і стаў паказываць „граніцы“. Граціцу, як і трэба было чакаць ад такіх людзей, ён правёў далёка ад настаяшчага і вядома не на карысьць сялян. Паказывая „граніцу“, абазначаную панам Шабеко, землямер ад прысутных сьведак Васіля Бурца і Мікалая Гаўрыльчыка з в. Ляпейкі, трэбаваў пацьвярдзіць словы Шабеко. На адказ Бурца і Гаўрыльчыка зрабіць гэта, ён ударыў Гаўрыльчыка некалькі разоў. Увідзіў, што землямер пачаў ваяваць, сяляне сталі разбегацца. І тут беда. Паліцыянты арыштавалі Янку Мялешку за тое толькі, што ён крыкнуў: „б'ець, уцекайце“! Пасьля гэтага напісалі пратакол у духу п. Шабеко і сталі трэбаваць, каб сяляне падпісалі яго. За адказ гэта зрабіць, паліцыя стала гразіць арыштам, так што змушаны былі падпісаць, не знаючы што. Вось дык парадкі!

**Згодны.**

*Вынімала мне паншчына дух,*
*Зжыў яе—думаў, воля дасьць хлеб,*
*І ці зьвёў ці ня зьвёў той ланцуг*
*Як за паншчынай бедзен і сьлеп.*

**Я. Купала.**

## УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### З Бабруйску.

**Хата Беларускай Культуры і Мастацтва.**

Згодна аднаго з пунктаў статуту і пастановы саміх сяброў „Хаты“, праца ў ёй не абмяжоўваецца колькі ўнутраным жыцьцём. Сябры „Хаты“ ў гэтым годзе маюць магчымасьць вынесьці працу і ў вёску, якая так патрабуе бязупыннай, шчыра-ідэёвай працы. Як прыклад і як пачатак гэтай працы, возьмем экскурсыю аматарскай трупы „Хаты“ і часткі яе хору ў в. Брожа, Броскай воласьці. Выйшлі ў суботу 23-га і ўсю адлегласьць у 20 вёрст зрабілі пехатой, і толькі невялікая частка ўдзельнікаў „культурнага паходу“, карысталася фурманкамі. Шумна, бадзёра ішлі сябры ў вёску, ды і ня дзіва, бо іх падтрымлівала думка аб патрэбнасьці гэтых „паходаў“, бо яны гараць жаданьнем несьці сьвет у цемру нашых вёсак. Перашкаджаў крыху дождж, але за сьмехам і жартамі ён неяк не заўважываўся. Прышлі ў Брожу позна ўвечары.

На другі дзень меўся адбыцца спэктакль-канцэрт у Броскім тэатры. Памяшканьне даволі вялікае і добрае, крыху, праўда, цёмнае, бо тэатр зроблен з вясковага грамадзянскага магазыну, але гэта нічога ня значыць, бо спэктаклі адбываюцца ужо пры асьвятленьні, калі сяляне скончаць свае гаспадарскія справы. Яшчэ шкада, што мала дэкарацый, а тыя, што ёсьць, дрэнна прыстасаваны.

Ставілі драму ў 2-х актах Ф. Аляховіча „Дзядзька Якуб“. Па гучных воплесках відаць было, што п'еса і ігра спадабалася прысутным. З прычыны немагчымасьці даць асобнага канцэрту, павялічылі лік сьпеваў па зьместу п'есы. Прыгожыя родныя сьпевы вельмі спадабаліся сабраўшымся, і па сканчэньні п'есы прасілі прасьпяваць яшчэ што-небудзь.

Скончыўся спэктакль пад гукі беларускай марсэльезы.

Сябры раненька выйшлі дамоў і да пачатку заняткаў па ўстановах усе былі на сваіх мейсцах.

Здаволенымі засталіся бачыўшыя, як нешта новае, спэктакль, здаволенымі засталіся ад свайго „паходу“ і наладзіўшыя яго.

# Дopісы.

## З Латвіі.

### Беларуская дзіцячая калёнія.

У Вышках наладжана летняя Беларуская Дзіцячая Калёнія на 25 незаможных дзетак, якія ўтрымліваюцца коштам Таварыства „Бацькаўшчына“ і пры грашовай дапамозе Амэрыканскага Дзіцячага Фонду.

14-га жніўня ў памешканьні Калёніі адбыўся канцэрт Беларускага Хору з Дзьвінску, пад кіраўніцтвам Гр. П. Мядзіолкі-Грыб, і беларускі спэктакль пад кіраўніцтвам гр. Камаржынскага.

### Беларуская вечарына.

12-га жніўня ў Дзьвінску адбылася, ў памешканьні Беларускае Гімназіі, вечарына-спэктакль.

Ставілі „Шчасьлівы муж“. Гралі вучыцялі-беларусы, слухаўшыя летнія курсы беларусазнаўства, фізычнага выхаваньня і латыскае мовы ў Дзьвінску.

П‘еса згуляна была дужа добра. Кіраваў пастаноўкай гр. Камаржынскі.

### Прэзыдэнт Латвіі ў Люцыне.

19-га жніўня Прэзыдэнт Латвіі гр. Я. Чакстэ праведаў м. Люцын.

Мясцовыя Павятовая і Меставая Управы, з поваду прыезду Прэзыдэнта, зрабілі ўрачысты банкет, на які запрошаны былі і прадстаўнікі ад беларускага жыхарства гр. К. Езавітаў і Г. Плыгаўка.

У прывітальнай прамове да гр. Прэзыдэнта гр. Г. Плыгаўка выразіў падзяку Латвійскаму Ураду за стварэньне ў Латвіі гэткага правапарадку, пры якім ніводная з нацыяў, населяючых Латвію, ня чуе сябе ў становішчы пасынка і мае поўную магчымасьць працаваць над разьвіцьцём свайго нацыянальнага дабрабыту і культуры.

## З Літвы.

**Анатомія і Фізыалёгія**, перакладзеная Д-р І. Цьвікевічам, у гэтым месяцы пойдзе ў друк. Выдавецкі аддзел Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве просіць надсылаць яму папраўкі, калі ў каго маюцца, да тэрмыналёгіі В. Л., надрукаванай ў парадку дыскусыйным, ў № 1 „Крывіча“, якая ўзята за аснову, згодна жаданьню апрацовываўшага кнігу Др. І. Цьвікевіча.

### Сон-няволя.

Доўга спіць у паняверцы
Наша родна старана,
Гора мучыць людзей сэрцы,
Стогне, плача найт й зямля.
Гнецца пад ліхай няволяй—
Брат, і бацька, і сваяк
Рвецца к волі, хоча сьвету,
Й не дажджэцца-жа ніяк.
Плачуць дзеці ў роднай хаце,
Гібнуць ад свайго бягуць,
Слова роднага і з кнігі
Нельга, негдзе ім пачуць.
Бо бацькі іх не сьвядомы—
Былі з гэтым у той час,
Калі толькі йшчэ аковы—
Не пачнуць спадаці з нас.
Як мы гэтага даб‘емся, —
Не скаваць нікому нас,
Будзем дружны, выйдзем сьмела—
На работу ў цяжкі час.

Вуч. IV кл. I Віл. Бел. Гімназіі
**Мар‘я Парашкевічанка.**

## БІБЛІЯГРАФІЯ.

**Крывіч:** Месячнік літэратуры, культуры і грамадзкага жыцьця. Ліпень. № 2. Коўна. Зьмест:

1. Ластоўскі (вершы): Рэйнскі вадапад. Кельнскі сабор. У Альпах. Сабор св. Марка ў Вэнэцыі. Гэнуэзскій рынак. 2. Рабіндранат Тагор. Нарысы. 3. Гергарт Гаўптман. Афорызмы. 4. Власт. Лабірынты (фантазыя). 5. А. Толстой. Борывой (верш). 6. Іонас Білюнас. Бура у горах. (з літоўск. мовы). 7. Н. Каржанскі. З запісной кніжкі невядомага (пер. з рас. мовы). 8. Л—кі. Пагляд расейскіх вучоных на беларускую мову. 9. Брачыслаў Скарыніч. Аб беларусах лаціньніках. 10. К. Душэўскі. Даваенны бюджэт Беларусі. 11. С. К. Беларускія вайсковыя фармаваньні на б. румынскім фронце. 12. І. В. Побыт Іероніма Пражскага ў Беларусі. 13. Т. Жудра. Царкоўна-парахіяльн. шпіталі у Магілеве у XVI—XVIII ст. 14. Запіскі. Леў Сапега аб перакладзе Статуту В. Кн. Літоўскага на польскую мову. Беларусы і першыя маскоўскія славянафілы. Аб залатой бабе. Прыкрыя памылкі. Беларусы у Усх. Прусы. Жан-Жак Руссо і Белавежская пушча. Беларусы і Ірляндцы. Дзеячы вялікай францускай рэвалюцыі аб нацыянальным пытаньні. Археолёгічныя знаходкі на Беларусі ў часе усясьветнае вайны. Манэта з выабражэньнем цэнтаўра. Грамата смаленскага князя Аляксандра Глебавіча. Камянныя крыжы каля Дзісны. Жаноцкія назоўныя іменьні. 15. Агляд культурнага жыцьця Беларусі. Культурна-асьветная праца ў Віцебшчыне. У Бел. Дзярж. Ін це Сел. Гаспадаркі. Камісыя беларусазнаўства. Парагляд праграмы па беларускай мове й літэратуры ў Сав. Беларусі культурны рух на Гомельшчыне. Сэмінарыі па бел. літэр. у Б. Д. Унів. Будаўнічы тэхнікум (Слуцк). 16. Агляд прэсы. XII зьезд Р. К. П. і нацыянальнае пытаньне. Што такое СССР. Хто вучыць нашых дзяцей. 17. С-пад Польшчы. Прапанова склікаць Усебеларускі Зьезд Зах. Беларусі. Агітаторы „Rozwoj‘а“. Мандат пасла Аўсяніка. Палута Бадунова. Польскі шовінізм. Закрыцьце літоўскай газеты. 18. С-пад Расеі. Амністыя Беларусам. Батанічны сад. Пашырэньне с—г. каапэрацыі на Беларусі у Ніжагародзкай ярмарцы. 19. З Латвіі. 20. З Літвы. 21. З Амэрыкі. 22. Бібліяграфія. 23. Свая пошта.

## Юрыдычныя парады.

**Гр. Сінкевічу, в. Шантароўшчына.** Каб выйці на хуторы паводле права, якое абавязуе ў цяперашні час—патрэбна ўхвала большасьці ўсяе грамады. Матар‘яльную дапамогу на адбудову дае акружная Дырэкцыя Адбудовы грашыма, або лесам, але толькі праз земскія ўрады, прычым аб патрэбе гэткай дапамогі трэба канешне зазначыць у грамадзкай ухвале. Ухвала павінна быць зроблена ў прысутнасьці Земскага Камісара, да якога трэба зварочвацца за ўселякімі ў гэтай справе выясьненьнямі. (Камісар жыве ў Глыбокім).

Адначасна паведамляем, што у Сойме цяпер апрацоўваецца новае права аб пераходзе на хутары, паводлуг якога дзеля пераходу на хутары ня толькі не патрэбна будзе „ухвала большасьці“, але нат пераход на хутары можа быць і прымусовы. Новае права мае ўвайсьці ў жыцьцё яшчэ перад новым годам.

## Гаспадарскія парады.

### Попел і буза.

Апрача гною быдлячага ў кожнай гаспадарцы ёсьць яшчэ шмат рачэй, што трэба зьбіраць, бо яны добра папраўляюць зямлю. Гэтак добра зьбіраць чалавечы кал і мачу, ды ня трэба пазваляць, каб яны валяліся і гнілі каля будоўлі: так гніючы нічога, апроч шкоды, яны не даюць, бо з іх ідзе зараза і хвароба. Затое, сабраны ў адно мейсца і прысыпаны ці торфам, ці чорнай зямлёй, кал той вельмі памагае на ўраджай.

А яшчэ кожны гаспадар—хоча, ці няхоча—павінен паліць ў печы. Вось трэба, каб ён попелу не глуміў дарма, а ссыпаў у бочку (павінен толькі добра пільнаваць, каб з попелам не было вугальлёў бо можэ часам пажар зрабіць). Бочку гэту трэба ставіць пад страхой, каб дошч яе не замачыў, а вясной попел роўна разсыпаць ці па сенажацьці, ці па канюшыне, выцы, гароху; на іншыя расьліны ён менш памагае, а на гэтыя—надта добра. Памагае попел затым, што шмат у ім паташу. Найлепшы попел з бярозавых дроў, горшы з сасновых.

Трэба ўмець скарыстаць у гаспадарцы і з такіх рэчай, як буза з сажалак і зямля з равоў. Ў сажалкі і равы вада носіць з поля і сенажаці шмат добрай зямлі, каторая асядае ў іх. Помніць толькі трэба, што бузу вывазіць на поле адразу нельга, бо яна надта кіслая і можа збожу пашкодзіць. Трэба яе выкапаць, спусьціўшы сажалку, ды злажыць на берэг у кучах, ня большых, як на поў аршына вышыні; так ніхай ён праляжыць праз зіму, каб да дна прамёрз. страціў квасы і прагніў. Вясной яго трэба добра пралапаціць і тады ўжо можна на папар вывазіць. Сухую бузу можна перш вывазіць у абору, пад скаціну; тады яна ўцягівае ў сябе мачу, каторая найчасьцей прападае без карысьці для гаспадара, выцекаючы вон з аборы. Прыгорываць бузу трэба плытка, пасьля прыбаранаваць, каб скрозь роўна з зямлёй перамяшапася. Класьці яе можна пад усялякае збожа, ала найлепш яна памагае на цяжкай зямлі.

### Сельска-гаспадарчыя працы.

**Працы на гаспадарцы**. Заканчваюць малацьбу лёну і засеў жыта.—Убіраюць ярыну і насенную дзятліну.—Капаюць бульбу.—Убіраюць лён.—Заворваюць на зіму.—Возяць гной пад вясеньні засеў.—Косяць атаву.—Малоцяць жыта.—Пацрэзваюць мёд у калодах.—Выкапваюць барозды дзеля спуску вады па пасеянаму жыту.

**Праца ў садзе.** Зьбіраюць яблыкі, ігрушы, сьліўкі і інш —Капаюць ямы для новых пасадак.—Даглядаюць за дзічкамі.

**Праца ў агародзе.** Зьбіраюць агародвіну і бульбу.—Чысьцяць парнікі.—Падгатоўка градак для азімай сяўбы. — Загатоўка розных грунтаў (зямлі), праца з кампостамі.

### Ахвяры на прэсовы фонд.

Я. Пятровіч з Амэрыкі злажыў на беларускі прэсовы фонд 1.673.000 польскіх мар., і заклікае падтрымаць родную газэту Мікіту Кароннага (Ameryka, 5938 West Fullerton w Chycago).

Ад гр. гр. Таразовіча А.—5000 м., Сьцепанюка—7.500 м., Сьвенціцкага — 15.000 м., Бульбінскага — 33.000 м., Касяка—6000 м., Цыбулевіча — 43.500 м., Гнатовіча—75.000 м.

## Курс на грошы.

**Варшава 29 жніўня.**

(Офіцыяльна).

| | |
|---|---|
| Даляры . . . . . . . . . | 249.000 |
| Нямецкая марка . . . . . | 00,3½ |
| Фунты штэрл. . . . . . . | 1.133.000 |
| Франкі франц. . . . . . . | 14.300 |
| Франкі бэльгійск. . . . . . | — |
| 10 руб. золатам . . . . . | — |
| Польскі злоты . . . . . . | — |



Рэдактар-Выдавец Я. Лагіновіч.

Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.